# СКАРЫСТОЎВАЙЦЕ СОНЦА І ПАВЕТРА

Кожны піонэр ведае, што сонца, вада і паветра—самыя моцныя і каштоўныя сродкі аздараўленьня і ўмацаваньня арганізму чалавека. Зараз маюцца спэцыяльныя санаторыі, дзе сонечнымі праменьнямі лечаць самыя цяжкія хваробы, якія немагчыма вылячыць ніякімі іншымі сродкамі. Існуе цэлая навука аб лячэньні хваробы сонцам. Над гэтаю навукаю працуюць выдатныя дактары і прафэсары. Цэлы шэраг хваробаў лечаць вадзянымі ваннамі, асабліва хваробы нэрвовае сыстэмы.

Кожны год з усіх куткоў Савецкага Саюзу зьбіраюцца ўлетку на паўднёвы бераг Крыму і на Каўказ тысячы людзей, змораных рознымі хваробамі. Вялікая частка з іх зьвяртаецца адтуль здаровымі і бадзёрымі, дзякуючы гарачаму паўднёваму сонцу, сьвежым хвалям мора і чыстага марскога паветра.

У летнія месяцы і ў нашай мясцовасьці бывае шмат цёплых ясных дзён, калі горача пячэ сонца, калі можна выйсьці за горад падыхаць сьвежым паветрам палёў і лясоў, выкупацца ў рэчцы. Піонэры павінны поўнасьцю скарыстаць гэты час для свайго здароўя, выкарыстоўваючы магутныя сілы прыроды як калектыўна, арганізавана, таксама і паасобку ў сваім штодзенным жыцьці. Ніводзін сапраўдны піонэр не павінен заставацца дома ў той час, калі атрад ідзе за горад у лес, да рэчкі, калі організуецца тая альбо іншая экскурсія. У час гэтых экскурсій павадыр дасьць кожны раз практычныя паказаньні, як павінны трымаць сябе піонэры. Але ў асабістым жыцьці піонэр, ня ведаючы правілаў карыстаньня сонцам, вадою і паветрам, часта шкодзіць свайму здароўю замест яго палепшаньня.

Здароўе скуры мае вельмі вялікае значэньне для здароўя ўсяго арганізму. Чаму? Каб адказаць на гэтае запытаньне, трэба ўявіць сабе тую ролю, якую адыгрывае скура, абараняючы наш організм ад хваробы. Цэлая сетка нэрваў і крывяных сасудаў нашай скуры, з аднаго боку, папярэджвае нас аб розных небясьпеках для нашага здароўя і, з другога боку, рэгуліруе сталую цяплыню нашага цела, ня гледзячы на частыя зьмены цяплыні акружаючага паветра, абараняючы, такім чынам, нас ад прастуды, а ў выпадку празьмернага награваньня цела вылучае пот з асобных залозак, а разам з ім розныя яды. Калі-б скура спыніла вылучаць пот—чалавек памёр-бы ў працягу некалькі хвілін.

Правільная дзейнасьць скуры, а праз гэта і здароўе нашага арганізму ўзмацняецца пад уплывам сонца, вады і паветра.

Першае правіла піонэраў улетку—больш знаходзіцца на вольным паветры і насіць такую вопратку, якая давала-б магчымасьць найвялікшага і непасрэднага ўплыву на скуру сонца і паветры. Самае лепшае летняе адзеньне піонэра: кароткія трусы, рубаха з адчыненым воратам і кароткім рукавом і сандалі на босую нагу, для дзяўчат—таксама, але замест трусоў—кароткая спаднічка.

Добры загар—адзнака здароўя, але загараць трэба ўмеючы. Калі адразу быць доўга на сонцы—скура сьпячэцца, будзе балець, потым аблупіцца і ў выніку будзе не карысьць, а, наадварот простае псаваньне скуры. Трэба разумець, што загар гэта афарбоўка, якая

(*Працяг гл. на 3 стар. вокладкі*).

## ЗЬМЕСТ.

Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 11** **ЧЭРВЕНЬ** **1927 г.**



* * *

Лета залатое, слаўная пара,
Сінія прасторы радасьцю гараць.
І шумяць аеры, і зьвіняць лясы,
Патанулі нівы у вянку красы.
Дзе-ні-дзе мігцяцца шэрыя вазы—
Выяжджае ў поле стары бацька й сын.
— Будзеш ты вучыцца, як араць загон...
. . . . . . . . . . .
Толькі-ж сыну сьніцца ўсё сталёвы конь...
Што ўзьнімае разам некалькі разор.—
З ім ня будзеш беднасьць уціраць сьлязой.
Гэта так вось будзе—гэта нават ёсьць.
Ды сягоньня толькі яно—першы госьць...
Сёньня бацька з сынам аруць на гнядым:
Бацька ўзяў за ручкі, сын—за павады.
Фыркае каняга, кволіцца нагой,
Быццам сам ён просіць замяніць яго.
Лета залатое, слаўная пара,
Сінія прасторы радасьцю гараць.

А. Я.

# ГАЛАВАРЭЗЫ

АПАВЯДАНЬНЕ

А. ГУМІЛЕЎСКАГА

Вярстох у двух ад лагеру, захаванае густой лазой і вербамі, як дротавым загараджэньнем, зьмяшчалася Доўгае Возера. Ніхто, напэўна, апрача аднаго каршуна, які заўсёды кружыўся над гэтым возерам, ня ведаў дакладна яго берагоў і іх абрысаў. Было, аднак, вядома, што выгляд яно мае васьмёркі і зарасло чаротам і асакою. У адным толькі гэтым месцы-перахлябіне можна было яго перайсьці, закасаўшы штаны да кален.

Па той бок заліўныя лугі толькі што высахлі. Вясёлая трава ўзьнімалася з тлустай зямлі з буйнаю сілаю. Шэрыя пупушынкі зялёных стрэлаў высока ўзьнімаліся з дзікае цыбулі, рыхтуючыся зацьвісьці. Але, усланыя на зямлі ад сакавітай ценжары, лісты шчаўя, толькі што нараджалі свае стаўбунцы. Яны былі мяккімі да самага карэньня і раставалі ў роце, не зьмяншаючы сабою смагі.

Ад лагеру да лугоў, праз петлі возера, ужо вілася тонкаю зьмейкай сьцежка, і ня было ў праверанай дарозе і вядомым для ўсіх бродзе ніякай таемнасьці, ніякай небясьпекі. Дзяўчынка адважылася пайсьці. Дзеці забіралі яе з сабою з ахвотаю—кожны хацеў-бы паказацца перад ёю адважным, сьмелым, лоўкім, ведаючым і вопытным. Гэта таму, што дзяўчынка першы раз апынулася ў лагеры.

— Ты разуйся, Соня,—проста сказаў Язэпка, які стаяў на чале атраду,—там брод.

Яна ня ведала, што такое брод, але з заміраючым сэрцам разулася. Бледныя ногі яе з прасьвечваючыміся навылёт сінімі жылкамі, якія ніколі, відаць, не дакраналіся яшчэ голай зямлі, прымусілі Язэпку зараз-жа раскаяцца ў сваёй радзе, але ён толькі пераглянуўся з таварышамі і нічога не сказаў.

Тонкі і доўгі хлопчык, якога клікалі „Жэрдкаю", паглядзеў, як дзяўчынка нерашуча стала босай нагою на зямлю, і адабрыў гэта, але гэтак моцна, што яна, занятая навіною сваіх адчуваньняў, здрыганулася.

— Ступай сьмялей,—крыкнуў ён.

Яна падняла на яго шэрыя, спуджаныя вочы і сказала ціханька:

— Нешта колецца...

— Нічога, прывыкнеш.

Яна сьціснула зубы і пашла ўсьлед за імі, то корчачыся і ўздрыгваючы, калі пападаліся пад ногі каменьчыкі, то борзда сьцярушваючы іх з падэшваў ног.

На пыльнай дарозе стала лягчэй. Дзяўчынка пасьмялела і пайшла хутчэй. Язэпка пералічыў усіх сваіх падарожнікаў і не далічыўся аднаго, самага прыкметнага.

— А Жэрдка дзе?

— Вунь ідзе.

Доўгі хлапчына, невядома дзе быўшы да гэтага часу, сапраўды даганяў дзяцей, узьнімаючы за сабою кучы пылу.

— Дзе ты гайсаў?—крыкнуў Язэпка.

— А нідзе, так,—адказаў той, далучаючыся да атраду, і ніхто не заўважыў, што, зьвязаныя раменьчыкамі, блыталіся ў яго на плячы сандалі.

---

*) Гэтае апавяданьне ўяўляе з сябе перапрацоўку 2-х разьдзелаў з роману „Галаварэзы", над якім пісьменьнік зараз працуе.

Дарога спусьцілася ў лагчыну. Лагер астаўся ззаду і зьнік. Дзяўчынка ішла адзінокай сярод шумлівых дзяцей, хвалявалася і сьпяшалася. Болей усяго пужаў яе рыжы, калматы, крывы хлапчына: белае пустое вока яго не варушылася, але здаровае сачыла пільна за кожным яе рухам, за кожным шагам і прымушала чамусьці ўспамінаць бацьку. Два тыдні да ад'езду ў лагер, тузаючы нэрвова свае вусы, крычаў ён на яе пужлівым голасам.

— Чаго ты там ня бачыла ў лагерах гэтых? Навошта ты паедзеш? Куды ты паедзеш? Жыць з гэтымі галаварэзамі? Ну, гэта тут у горадзе на парадах, на занятках, дык яшчэ можна з імі пабыць гадзіну-другую. Тут за імі сочаць. Яны ва ўсіх на вачох, а там... Адны. У палатках... Завядуць цябе куды-небудзь. Зарэжуць, паб'юць, ногі, рукі пераломяць... Усюды галаварэства, усюды хуліганства... Яны дзяўчат за людзей ня лічаць. З імі толькі такія-ж галаварэзы ўжыцца могуць... Не, не, не.

Яна слухала, маўчала, моцна сьціснуўшы губы, але калі лаянка бацькава прыпынялася, абурэньне заспакайвалася — Соня ціханька падыходзіла да яго і ўпартаківала галавой:

— Я усё-ж такі паеду з атрадам.

— А я не дазволю!—крычаў бацька.

— А я паеду...

— А калі я не дазволю?!

— А я ліст напішу Рыкаву, ён загадае табе дазволіць.

Востры каменьчык заеўся ў нагу так, што дзяўчынка застагнала ад неспадзяванасьці і болю. Хлопцы спыніліся.

— Ты што?

— Нічога...

Яна націрала сваю нагу, з зайздросьцю аглядваючы загарэлыя ногі дзяцей, якія сьмела ступалі па жорсткай дарозе. Адзінае толькі вока калматага хлапчыны пільна глядзела на яе расчырванелыя шчокі.

— Нічога, нічога,—мармытала яна, пасьпешна ступаючы зноў на зямлю,— прайшло... Пойдзем...

Доўгі хлапчына кінуў да яе ног сандалі:

— Надзень іх...

— Не, не...—спужаўшыся, запярэчыла яна, аглядваючы ўсіх, нібы шукаючы падтрыманьня і спачуваньня свайму рашэньню. Але твары іх былі сур'ёзнымі і ўсьмешкі патрэсканых губ няпрыветлівымі.

— Надзявай, — падтрымаў Язэпка,— надзявай, ня бузі.

— Надзявай,—пераконваючы, прыжмурыўшы адзінае вока сваё і зьвярнуўшы яго ў бок Доўгага Возера, заявіў і крывы,—зараз за мосьцікам—проста полем ісьці. Страшэнна калючая дарога. А там, быццам у лесе, і невядома, што пад нагамі...



Чаго ты ня бачыла ў лагерах?..

— А вы?

— Ды мы прывыкшыя, і таксама сілай ідзеш. Надзявай. Трошку павелікі, але нічога, ня скінуцца.

Яна адзела сандаль на нагу, але тутжа спуджана ўзьняла галаву на таго, хто даў ёй гэтыя сандалі. Ён стаяў, нахіліўшыся над ёю, і з цікавасьцю глядзеў, як гэта прыпадуць яны на яе ногі.

— Гэта твае сандалі?—спыталася яна.

— Мае,—сказаў ён.

— А як-жа ты без сандаляў будзеш?

— Абыйдуся як-небудзь, — адказаў ён,—надзявай...

— Не, я не вазьму. Табе самому патрэбны.

Яна рашуча адкінула нагой сандалі, і даўгуль-хлапчына, узлаваўшыся, павінен быў прызнацца:

— Ды я-ж дзеля таго й забег узяць іх, каб даць табе. Вось не здагадлівая—фу.

Дрыжачыя ад хваляваньня рукі яе чуць справіліся з раменьчыкамі сандаляў. Сандалі шлёпаліся на нагах, але ня скідаліся. Атрад зараз-жа рушыўся ў дарогу. Дзяўчынка з гордасьцю ўспамінала аб хаце.

З просьбай да старшыні Саўнаркомаісьці не давялося. Урэшце, бацька павінен быў пусьціць у лагер галаварэзаў упартую дачку. Аднак-жа, выяждаючы, яна павінна была даць цьвёрдае піанэрскае слова заплаканай матцы, што пры першай-жа небясьпецы яна, Соня, заразжа, хоць-бы й тайком, пакіне лагер і вернецца дамоў. Для гэтага і былі зашыты ёй у ражок кафтанчыка грошы: цяпер, паглядваючы на гэтых галаварэзаў, дзяўчынка сарамліва тузала гэты ражок з грашыма, і скамечаныя паперкі здаваліся для яе, як камень за пазухай.

Ад сарамяжлівасьці ці адпачынку, але і ногі таксама гарэлі ў вялікіх, раскошных сандалях. Ляпей было-б для яе, каб хто-небудзь з таварышаў ускрыкнуў на яе, ці падставіў-бы ножку, як гэта рабілі яны адзін з другім. Але яны штурхаліся навокал яе так, як быццам нічога не адбылося, шумелі, сьмяяліся і разгаварвалі аб здарэньнях, вядучы адзін з другім спрэчкі, як і заўсёды. І калі раскошныя сандалі прымушалі яе іншы раз аставацца ад хлопцаў, апошнія, не перастаючы круціцца вакол яе, як чатыры зямлі вакол сонца, зьмяншалі свае шагі і чакалі.



І каб ня гэта бліскучае сонца над галовамі, калі-б не бязьмежны простор зялёных палёў вакол, можна было-б сябе адчуваць так-жа сама спакойна, як на любой з каменных вуліц гораду, які здаваўся для бацькі такім бясьпечным.

Але трэба ўжо было прабірацца праз зарасьлі вербаў, у пахучай і сьвежай прахалодзе, абараняючыся ад колкіх галінак зарасьлі. Язэпка ішоў наперадзе, за ім цягнуліся другія, і калі пярэдні ўжо зашастаў між чароту і асакі і заплюхаў гразнучымі ў твань нагамі, пералазячы праз балотца, Соня толькі што выходзіла з зарасьлі на бераг.

Вужакі, якія грэліся на сонцы, сыкаючы і выкручваючыся, імчаліся да вады, ратуючыся такім чынам ад неспадзяванай небясьпекі. Дзеці кінуліся за імі, не пасьпеўшы закасаць штаноў.

Дзяўчынка замерла ад страху на беразе. Ні за што нельга было прымусіць яе ступіць у ваду, якая бурбаліла і хавала ў сабе няма-ведама якія жывёлы.

Чарот з асакой паляглі пад нагамі дзяцей, і ў зялёнай сьцяне, сярод балота, засталася вузкім калідорам пракладзеная імі сьцежка. Скрозь яе відаць быў процілеглы бераг: там, сапучы і атрэсваючыся, чакаў Язэпка з таварышамі Соню і крывога. Ён стаяў тут каля яе, і, усьміхаючыся адзіным сваім вокам, чакаў таксама.

— Ну, што-ж ты? Тут меленька.

Яна глядзела на яго, на чакаўшых іх дзяцей, на ваду, якая хвалявалася ад уставаўшых з яе чароцін.

— Эге,—закрычаў раптам крывы,—эй, Жэрдка. Ты што-ж гэта, хочаш, каб дзяўчынка ў тваіх сандалях у ваду лезла? Ідзі сюды.

Той з задаваленьнем яшчэ раз праплюхаўся назад па вадзе і падазрэнна паглядзеў на ногі дзяўчынкі.

— Не, у іх нельга. Я аднаго разу пашоў быў, а яны праз дзень і распаўзьліся...

— Ну, дык давай яе перанясем,—заключыў крывы, узрадаваны ад уласнай сваёй выдумкі, якая зьнішчыла непаразуменьне,—ну? Садзіся, Соня... Гэтак паправілу нават параненых носяць, ня скінешся. Проста, як на стуле.

Яны ўзяліся за рукі накрыж, і па ўсіх правілах так зграбна і хутка, што дзяўчынка апамяталася ўжо толькі тады, калі жывыя насілкі былі пасярод небясьпечнае дарогі.

— Я-б сама...—нерашуча і сарамліва прашаптала яна.

— Чарот вельмі гостры, — задыхаючыся і чуць выцягваючы ногі з гразкага балота, сурова перапыніў яе крывы,—ногі можна пакалоцьць... Тут з табою ад клопату не адцярэбішся... Гэтак лепш. Вось гатова.

Яна зьняла свае рукі з іх плеч і сарамліва прагаварыла — „дзякую“.


Яны ўзяліся за рукі накрыж..."

Хлопцы выцiралі рукавамі рубашак мокрыя лбы і рыжы, падморгваючы вокам, крычаў:

— Сапраўды, на штосьці жывое наступіў. Аж пот праняў!..

Напэўна, ім было цяжка—і ці не ад таго гэта толькі, што ў ражку яе кафтанчыка быў зашыты гэты страшны камень?

А галаварэзы ўжо прабіраліся далей праз кусты, і ішоўшы наперадзе Язэпка ўжо крычаў назад:

— Таварышы, ціха, помніце, што на кухню шчаўя трэба прынесьці, колькі зможам. Сьцябло ежце, а лісты зьбірыце.

І з гэтым цьвёрдым загадам рассыпаліся ўсе па лузе.

Між іншым, загаду гэтага і непатрэбна было даваць.

Зялёныя кусты дзікае цыбулі і шчаўя тарчалі на кожным шагу. Праз гадзіну ўжо не ахапкі сакавітае травы зелянелі ў руках у дзяцей, але здавалася, што іх галовы тарчалі між зялёных ахапкаў.

Язэпка першым лёг адпачываць. Сябры яго чуць ня цэлы стог навалілі тут-жа сьвежага зяленіва.

Ён упіваўся прыемным пахам зяленіва, пёк твар пад гарачым сонцам і, не заўважваючы пасеўшых ужо вакол яго таварышоў, марыў услух:

— Нам-бы, таварышы, трошку на бязьлюдным востраве пажыць. Або хоць-бы вось тут сярод лугоў, але толькі, каб нікога апрача нас і нічога ня было... Або ўсяго адзін ножык — жыві і спраўляйся як хочаш, як зусім дзікі чалавек.

— Няўжо гэта можа быць дзе-небудзь зусім бязьлюдны востраў?— спытаўся хтосьці, глытаючы сьліну ад усхваляваньня.

— Чаму-ж яму ня быць? Я чытаў у кніжках, ёсьць такія творы, як Рабінзон. І шмат іншых—Жуль-Вэрна і Фэнімора Купэра... Нам няможна, мы піонэры. А чытаць можна... Я накупіў-бы гэткіх кніжак у бібліотэку атраду—іх чытаеш, як быццам там і сам быў; я-б накупіў іх, калі-б былі грошы...

Тады зашыты ў кафтанчыку „камень“ стаў надзвычайна цяжкім, і дзяўчынка крыкнула неспадзявана:

— А я табе грошы дам!

— Ты?—Язэпка нават падняўся,—дзе ў цябе грошы?

— А вось тут зашыты!—Яна схапіла ражок кафтанчыка, і ён з грашыма тарчаў з яе кулака, як злоўленая за вуха пужлівая жывёла,—ножык ёсьць? Дай яго.

Яна пасьпешна распорвала ражок, а ўсе іншыя глядзелі на яе з уважлівым зьдзіўленьнем. Яна кінула Язэпку грошы, як гарачыя вуглі,—раптам адхапіўшы рукі і нават памахаўшы імі ў паветры. Язэпка памалу пералічыў і проста сказаў:

— Кніжак на шэсьць тут хопіць. Калі, зразумела, дастанем са скідкай, як нам палагаецца для атраду...

Тады зьдзіўленыя погляды таварышоў зьвярнуліся зноў на ўладара скарбу. Яна кружылася за іх сьпінамі, ні на кога не зьвяртаючы ўвагі. Яна ўпівалася страшэннай лёгкасьцю ўласнае сваёй істоты і хавала ад вачэй другіх сарамлівасьць і жар палаючых шчок.

Гэта адчуваньне лёгкасьці не пакідала яе пасьля праз увесь дзень і ўсю дарогу назад. Гэта лёгкасьць яе не схавалася нават ад таварышоў, якія пераносілі яе праз топкае балота, зразумела, таму, што на гэты раз, узабраўшыся на жывыя насілкі, яна абнімала загарэлыя шыі галаварэзаў сьмела, прыхільна і цёпла, як абнімаюць толькі таварышоў і сяброў.



# У ЛАГЕРЫ

**Задумёна
Шэпчуць клёны,
Штось гадаюць
Песьняй звонкай.
Нас сасонкі
Сустракаюць.
Лес шумлівы,
Рэчка, нівы
Дышуць воляй.
Срэбра сонца
Льле бясконца,
Мые поле...
І нястрымны
Нашы гімны
Льлюцца, льлюцца...
Новым тонам,
Рэхам-звонам
Раздаюцца.
Мерным крокам,
Эй, далёка
Ў шлях нязнаны!
Там прасторы,
Долы, горы,
Лес каханы.
Там начамі,
Перад намі
Месяц ўстане,
Ён абніме
Бор той сіні,
І сьвітаньнем
Над далінай
Цёмна-сіняй
Будзе плысьці.
Там раздольле,
Нівы, поле,
Шопат лісьцяў.
Задумёна
Сьцяг чырвоны—
Ўсё віецца—
Наша песьня
Ў цёмным лесе
Раздаецца.**

**Ал. Розна.**





# Сьлёзы Тубі

Апавяданьне **Я. Маўра.**

Малюнкі **Я. Кашкеля.**

Маленькі Тубі ўвесь свой маленькі век пражыў на беразе мора. Заўсёды перад яго вачыма была бязьмежная прастора—то ціхая, ласкавая, то бурная, злосная. Сонца кожны дзень вылазіла з вады з левага боку, праходзіла над самай галавой і хавалася ў ваду з правага боку.

І ўсё сваё жыцьцё тут Тубі чуў, як хвалі набягалі на нізкі пяшчаны бераг і пелі сваю песьню. З ёю ён уставаў, з ёю ён клаўся спаць, яе ён чуў, калі прачынаўся ўначы, не заціхала яна і ў пякучы поўдзень, калі ўсё жывое хавалася ў цень і ня рыпалася. Ён і ўявіць сабе ня мог-бы, што дзе-небудзь можа быць такое месца, дзе ня чуць гэтай песьні. Часамі, калі ўздымалася бура, гэта песьня пераходзіла ў лямант, але маленькаму Тубі зусім ня страшным быў гэты лямант, як ня страшна было вунь тэй чайцы, якая толькі і жыве морам.

А ззаду, за сьпіной, за халупамі, пачынаўся лес, а што было за ім—Тубі ня ведаў. Чуў ён часам, як казалі пра нейкія землі, гарады, розныя дзіўныя краіны, але ўявіць сабе гэтага ня мог. Ну, адкуль-жа можа ўзяцца нешта другое, апрача яго берага і мора?

Праўда, ён часта бегаў туды, каб сьцягнуць какосавы арэх, банан і іншыя добрыя рэчы, але больш часу праводзіў у вадзе і адчуваў сябе ў ёй, як рыба.

Яны жылі ўдваіх з маткай у нейкай халупцы з гальля. Бацька памёр тры гады таму, калі Тубі было восем год. Ён добра памятаў яго. Чорны, худы, як шкілет, і ўсё харкае крывёю.

Кожны год, у красавіку, наяжджалі сюды людзі з чорнымі барадамі, у белых халатох, на белых чаўнох. Яны мелі шмат лодак, набіралі шмат людзей, у тым ліку быў і бацька Тубі.

Лодкі ад'яжджалі ў мора, станавіліся там у шэраг, і голыя чорныя людзі кідаліся ў мора, нурцавалі пад ваду і праз хвіліну-дзьве вылазілі. Кожны з іх меў ля сябе кошык, і ў гэты кошык яны зьбіралі на дне мора чарапашкі.

Людзі з чорнымі барадамі і ў белых халатох сядзелі на беразе ў шатры. Перад імі стаялі розныя стравы і напіткі, яны ў біноклі глядзелі на мора, часам аддавалі нейкія загады.

У поўдзень рабілі перапынак. Лодкі пад'яджалі да берага, людзі зносілі ў шатры чарапашкі. Тут іх разь-

бівалі і чагосьці шукалі ў сярэдзіне. Адных са злосьцю кідалі ўбок, у другіх знаходзілі нейкія бліскучыя, сьветлыя каменьчыкі. І тады дзядзькі ў белым пстрыкалі пальцамі, шчырылі белыя зубы і казалі:

— О, гэта добра.

— А гэта штукенцыя можа даць тысяч дваццаць.

А людзі, якія лавілі гэтыя чарапашкі, ляжалі на беразе ледзь жывыя.

І ў шмат каго з рота ішла кроў. Асабліва ў бацькі Тубі.

Тубі падыходзіў да яго, плакаў, падносіў яму вады. Бацька ўсьміхаўся, пробваў жартаваць з сынам, але гэта неяк не ўдавалася.

Праз гадзіну давалі сыгнал, і людзі зноў адпраўляліся ў мора. Зноў пачыналася тое самае нурцаваньне.

Пад вечар бацька прыходзіў дамоў і, як сноп, валіўся на пасьцель. Маці клапацілася, даглядала яго карміла, але яму нічога ў горла ня лезла.



Кожны год наяжджалі сюды людзі з чорнымі бародамі і ў белых халатах.

І так цягнулася цэлы месяц, кожны дзень, бяз ніякага перапынку.

У астатні дзень бацька прынёс маці некалькі грошай. Выгляд яго быў ужо зусім дрэнны.

Матка засумавала.

А назаўтра бацька памёр.

Яшчэ памятае Тубі, як бацька аднаго разу ўзяў яго з сабой, і раніцою, да сьвету яны адны выехалі ў мора. Там бацька пакінуў Тубі ў лодцы, а сам нырнуў у мора.

Але на беразе падняліся крыкі шум, да іх выехалі дзьве лодкі, бацьку схапілі, білі, пацягнулі кудысь. Ён вярнуўся толькі праз тры дні. І доўга пасьля гэтага бацька і матка былі сумныя і хмурыя.

Тубі зразумеў толькі, што бацьку білі за тое, што ён нырнуў сам адзін у чужое мора, што гэта мора і чарапашкі належаць да нейкага пана.

Доўга пасьля гэтага Тубі баяўся купацца ў чужым моры, але яго ніхто не ганяў і ён супакоіўся.

* * *

І вось аднаго разу маці сказала Тубі, што яму трэба вучыцца, што яму прыдзецца хадзіць за тры кілёмэтры „ў школу“. А потым маці павяла яго і пакінула ў „настаўніка“.

Гэты настаўнік, відаць, быў вельмі сярдзіты, бо заўсёды трымаў у руцэ бізун.

Вучняў набралася чалавек пятнаццаць.

Пачаліся лекцыі. Настаўнік узяў пяць белых, досыць вялікіх каменьчыкаў, даў хлопцам, каб яны добра прыгледзеліся да іх, кінуў каменьчыкі ў мора і загадаў пяці хлопчыкам, каб кожны з іх дастаў па каменьчыку.

Хлопцы нырнулі, вынырнулі. Чатыры хлопчыкі прынесьлі па каменьчыку, а пяты не знашоў. Тады настаўнік сьцегануў яго бізуном па голай, шчуплай сьпіне... Дайшла чарга да Тубі. Ён плаваў і нурцаваў можа лепш за ўсіх хлопчыкаў, але пры думцы, што яму можа не пашанцаваць, што тады ён таксама атрымае бізуна — пры гэтай думцы ў яго цямнела ў ваччу.

Раз-два-тры! Каменьні паляцелі ў ваду, хлопцы за імі. Тубі адразу заўважыў, што тутака зусім ня глыбока і сьветла, і гэта супакоіла яго. Шырока рашчыненымі вачыма стаў ён прыглядацца да дна. Зеленаваты колер вады, выгляд дна, мігаценьне сьвету—усё гэта яму было добра знаёма. Бяда толькі, што сустракаліся другія каменьчыкі, сярод якіх цяжка было знайсьці той, што патрэбен.

Вось ён заўважыў, кінуўся да яго, але разам з ім кінулася туды нейкае страшыдла. Тубі аж адхіснуўся, але зараз-жа сьцяміў, што гэта яго таварыш, які ўжо працягваў руку да каменьчыка.

У галаве Тубі агнём бліснула думка, што калі ён упусьціць, дык атрымае бізуна.

Ён напружыўся, штурхануў таварыша і выхапіў камень у яго з-пад носу.

Вышлі на бераг, падалі настаўніку каменьчыкі. Падаў і той хлопчык, але...

— Ня той!—зароў настаўнік. Ці ты сьляпы, ці што? Ды я цябе навучу добра глядзець!

І па цёмнай сьпіне хлопчыка адбіўся спачатку белы, а потым чорны шрам.

Заліўся хлопчык сьлязьмі, а сьледам за ім і Тубі.

— Чаго-ж ты, дурань, равеш?— зьвярнуўся да яго настаўнік.

Але ня мог Тубі сказаць, што гэты ўдар яго таварыш атрымаў праз яго, Тубі.

* * *

Навука ішла. Многа тдняў, месяцаў.

Каменьчыкі кідаліся ўсё глыбей і глыбей. Потым яны рабіліся ўсё меншыя. Потым сталі кідаць чарапашкі, якія так цяжка было разглядзець у вадзе.

А разам з цяжкасьцю заданьняў часьцей сыпаліся бізуны...

* * *

Скончылі „першую клясу“, перайшлі ў другую. Трэба было навучыцца як мага болей пратрымацца пад вадой.

Выехалі на лодцы ў мора. Спусьцілі якар, а да яго прывязалі кошык. Трэба было адным духам адвязаць пад вадой кошык і вынесьці наверх. Вузлы спачатку былі простыя, а потым ўсё хітрэйшыя і хітрэйшыя.

І бізуны сталі ўсё часьцейшыя і часьцейшыя...

Нырнуў Тубі, стаў адвязваць кошык. Сьпяшаецца, рукі дрыжаць, а духу ўжо не хапае. Яшчэ трымаецца сэкунду, другую; кошык вось-вось будзе адвязаны, але ўжо ў галаве памуцілася, у вушох зьвініць, ужо вада ў нос набіраецца.

„Не, не магу. Хай лепш б'е“.

І ён кідае ў той момант, калі кошык быў, можна сказаць, ужо адвязаны. Але настаўнік яго ня біў бо... Тубі зваліўся на дно лодкі і ў няпрытомнасьці, з носа яго, як калісьці ў яго бацькі, паказалася кроў...

Вучэньне скончылася. Тубі мае дванаццаць год і можа ўжо падзарабляць. Праўда, ня столькі, як дарослыя, але яго больш ахвотна бяруць, бо навуку скончыў ён першым. Ды працуе ён на меншай глыбіні, бліжэй да берагу.

І ня толькі дзеля таго, што ён ня можа там, далей, але яшчэ і таму, што небясьпечна. Дзеля гэтага дарослыя, апрача кошыка, бяруць з лінасьцю. Сьвету ўжо меней даходзіць сюды, паміж скалаў нейкія горныя ямы, дзе варушыцца нешта скручанае, сьвецiцца нейкае вока.

Вось на адным толькі камені ён заўважыў чарапашкі, борзьдзенька згроб іх, паклаў у кошык і ўжо быў накіраваўся ўвёрх, як заўважыў, што стала цёмна, нібы нешта зьверху заступіла сьвет.



Кінуўся Тубі ў адзін бок, кінуўся ў другі, паказаўся ўжо над вадой...

сабою яшчэ вялікі нож. А хлопчыкі за іх сьпіною могуць і без аружжа.

Прычапіў сабе Тубі кошык, узяў у рукі значны камень, каб хутчэй і лягчэй пайсьці на дно,—і нырнуў на 6 сажняў у глыбіню. (Дарослыя апускаюцца нават на 10 сажняў).

Вось ён на дне. Але няроўны пясочак тамака, а скалы горныя, касматыя, абросшыя сьлізкай расьлінасьцю.

Зірнуў—кіруецца да яго ўжо сапраўднае страшыдла, рыбіна мэтраў чатыры даўжыні з страшэнным ротам, пастаўленым неяк поперак пад галавой, з вялікімі мігаючымі вачыма. У расчыненым роце відаць вялізарныя зубы. Гэта і быў той самы страшны вораг, акула, супроць якой і бралі людзі кінжалы.

Кінуўся Тубі ў адзін бок, кінуўся ў другі, паказаўся ўжо над ва-

дой, але... Жудасны крык, хруснулі косьці, а разам і кошык... Тубі загінуў...

Людзі з усіх бакоў сьпяшаліся на падмогу. Акула досыць нязграбная і няспрытная, людзі могуць з ёй справіцца. Не пасьпела яна павярнуцца, як некалькі кінжалаў прабілі яе.

Затрапяталася зьвяруга, нават аглушыла хвастом аднаго чалавека. Запенілася мора, але белая пена была афарбована крывёю акулы.

Не прайшло ёй дарма гэта злачынства, загінула і яна. Пацягнулі яе да берага, разрэзалі ёй горла і бруха і там знайшлі беднага Тубі з яго кошыкам.

А ў кошыку некалькі чарапашак.

Лапы гаспадароў адразу-ж пацягнуліся да гэтых чарапашак. Разьбілі адну, раздушылі другую, а ў трэцяй знайшлі вялізны пякнюткі пэрл.

Заблішчалі вочы ў гаспадароў, пстрыкнулі яны пальцамі:

— Во, гэта—рэч. Тысяч 50 будзе.

Стаіць, галосіць матка над кавалкамі свайго сына. Кляне свой лёс, які ўзяў ад яе мужа і сына. Хмура глядзяць голыя людзі на бязьвінную ахвяру, слаўнага, спрытнага маленькага Тубі.

Разьмякчэла нават і сэрца людзей у белых халатах. Ня гледзячы на тое, што Тубі працаваў толькі 7 дзён, яны заплацілі матцы за ўвёсь месяц і апрача гэтага дадалі яшчэ 100 рупіяў*).

*) Рупія—індыйская монэта каля 15 капеек.

Праз некалькі месяцаў у Лёндане быў баль у міністра замежных спраў. Запрошаны былі такія паны, што на кожным з іх каштоўнасьцяй было ня менш, як па 100 тысяч. Але-ж і сярод такіх багатыроў агульную ўвагу зьвярнула на сябе жонка „нафтавага караля“, лэдзі Сьміт. Яна ўся зьзяла золатам і дыямэнтамі. Але больш за ўсё гэта вабіў да сябе вялізны, дзіўны пэрл. У залатой аправе тонка адшліфаваны, ён вісеў на грудзёх, як жывы. Бляды колер, мяккі сьвет, аксамітны выгляд,—усё гэта вабіла да сябе вочы і ня верылася, што гэта толькі камень.

— Пяцьдзесят тысяч каштуе— шапталіся зайздросьлівыя паны.

— Недарма людзі кажуць, што гэта скамянелыя божыя сьлёзы.

Ня ведалі яны, што гэта ня божыя сьлёзы, а сьлёзы маленькага, голага, чорнага Тубі з вострава Цэйлону*).

*) Пэрлы ствараюцца ў асобных пэрлавых чарапашках і зьяўляюцца ў выніку хваробы, калецтва іх. Калі ў сярэдзіну трапіць якая-небудзь пяшчынка, дык сьлізьняк (малюск) вылучае вадкасьць—сьлізь, якая цьвярдзее, камянее і дае пэрл. Часта людзі наўмысьне засоўваюць туды што-небудзь такое, каб яно там муліла і праз некаторы час таксама зьяўляецца пэрл.

Галоўнай часткай матар'ялу, з якога складаецца пэрл, зьяўляецца вапна. Да гэтага парадку таксама належыць пэрлямутр, з якога выраблюцца ўсім вядомыя гузікі, але гэты матар'ял бярэцца з самай чарапашкі, унутраны бок якой пакрыты танюсенькім пластом гэтага пэрлямутру, а пэрл абкладзен гэтым самым матар'ялам з усіх бакоў.

Галоўным месцам здабычы пэрлаў ва ўсім сьвеце лічыцца Цэйлон (ля Індыі), а потым Пэрсыдзкая затока і Чырвонае мора (між Аравіяй і Афрыкай).

Цікава адзначыць, што падобныя пэрлы знаходзяцца і ў СССР на некаторых паўночных рэчках, і ў некаторых выпадках дасягаюць каштоўнасьці 100 рублёў за штуку.



# ЗАРАДАВАЯ





Хочаш быць здаровым? — Наладзь цьвёрды, здаровы рэжым работы, адпачынку і сну. Гэта зусім ня так цяжка, як можа паказацца з першага разу.

### Здаровы рэжым.



Праспаўшы, прыкладна, дзевяць гадзін, уставай у сем гадзін раніцы, добра праветрывай свой пакой і прымайся за гімнастыку. У час практыкаваньняў сачы за дзейнасьцю сэрца і лёгкіх, не пераўтамляйся і толькі паступова павялічвай нагрузку і час заняткаў, які не павінен перавышаць дзесяці хвілін. Як агульнае правіла, трэба ведаць, што пры расшырэньні груднай клеткі робіцца ўдыханьне (носам), а пры звужваньні — выдыханьне (ротам). І тое і другое робіцца „да адказу“.



### Зарадавыя практыкаваньні.





1) Падніманьне рук у бакі да ўзроўню плеч з аднačасовым прыпадніманьнем на дыбкі — удыханьне. Апусканьне на пяткі, рукі ў бакі, уніз—выдыханьне.

2) Паступовае падніманьне рук наперад, угору, з адгібам тулава і галавы назад да адказу—паступовае ўдыханьне. Хуткае апусканьне рук наперад, уніз і прывядзеньне тулава ў першапачатковую стойку—хуткае выдыханьне.



3) Першапачатковае становішча. Ногі ў бакі, рукі на клубах—удыханьне. Затым згібаньне тулава ў паясьніцы да палажэньня простага кута (рух і выдыханьне павольныя). Зварот у першапачатковае становішча—удыханьне.



4) Напружаны паварот шыі. Рукі кладуцца на патыліцу.

5) Ногі—вольна. Локці ў бакі, на вышыні плеч. Пальцы рук датыкаюцца да ключыцы—удыханьне. З гэтага становішча робяцца плаўныя рухі такім чынам. Хутка выкідваюцца рукі ўперад і нахіляецца галава—поўнае выдыханьне. Затым далоні рук паварочваюцца надвор і рукі паступова разводзяцца ў бакі, галава адкідваецца назад, мышцы напруджваюцца—глыбокае ўдыханьне. Пасьля гэтага рукі апускаюцца ўніз і, ня прыпыняючы дзейнасьці, рух паўтараецца ад 3 да 6 разоў.



6) Рукі адводзяцца назад, адна з ног згібаецца ў калене, галава проста—удыханьне. Зварот у першапачатковае становішча—выдыханьне.

7) Першапачатковае становішча „зважай“—удыханьне. Адсюль паступовае прысяданьне на дыбках (пяткі разам) і роўналежнае падыманьне рук наперад да ўзроўню ключыцы—выдыханьне. Прысяданьне робіцца з шырокарасстаўленымі

# ГІМНАСТЫКА

каленамі і выпрастаным тулавам. З гэтага становішча рукі разводзяцца ў бакі, ногі становяцца на ўсю ступню—удыханьне. Затым апусканьне рук уніз—выдыханьне.

8) Раз—рукі на клубы. Два—згібаньне правага калена з выцягваньнем пальцаў нагі ўніз. Тры—выпростваньне паднятага калена. Чатыры—прыставіць нагу і апусьціць рукі. Дыханьне глыбокае і вольнае. Рухі рэзкія. Рух паўтараецца, пераменьваючы ногі.

9) Пакручваньне тулава. Рукі кладуцца за сьпіну накрыж. Спачатку адхінуцца назад і ўправа—удыханьне. Затым нахіленьне наперад і ўлева—выдыханьне. Рухі паступовыя. Практыкаваньні робяцца без напружанасьці.

10) Адвод ног па чарзе ў бок да магчымасьці. Свабоднае балансіраваньне.

11) Выкідваньне рук з напружанасьцю наперад, у бакі, назад, уверх і г. д.

12) „Плаваньне“ ў размашку з нахілам тулава наперад і выцягваньне аднэй з ног назад.

13) Ногі разам, рукі выцягнуты наперад—удыханьне. Адсюль паварот тулава ўлева—выдыханьне. Паварот управа—удыханьне. Зварот у першапачатковае становішча з апусканьнем рук уніз—выдыханьне.





14) Сьцісканьне рук „у кулак“ з падніманьнем на дыбкі.

15) Лежачы на сьпіне без падушкі, падыманьне нагі ўверх — выдыханьне. Апусканьне—удыханьне. Плечы і галава ў час практыкаваньняў не павінны рухацца.



16) Хутка садзіцца „па турэцку“—выдыханьне. Уставаць—удыханьне.

17) Па чарзе рабіць рухі правым і левым плячом з адначасовым паваротам далоні рукі. Пры адвядзеньні—удыханьне. Тое-ж можна прарабіць і двума плячыма.



18) Адначасовае, хуткае выкідваньне рук наперад, так, як-бы водзячы пілу. Роўналежнае выстаўленьне аднэй з ног таксама наперад. Нахіл галавы—хуткае выдыханьне. Адсюль адвядзеньне рук да ключыц, выпростваньне тулава, сагнутага калена (выстаўленай наперад нагі) і нахіляючы шыю—удыхаючы. Рух праробліваецца некалькі разоў з заменай становішча ног.





А. Кронэ.

# ЧЫРВОНЫЯ І БЕЛЫЯ

*(З успамінаў)*

Нядаўна піонэры Беларусі спраўлялі свой пяцігадовы юбілей. Тут піонэры вольна сьвяткавалі сваё сьвята. Так ня могуць сьвяткаваць дзеці, якія жывуць у краінах, дзе яшчэ пануюць буржуі. Вось аб тым, як жывуць у аднэй з такіх краін дзеці, я сваімі ўспамінамі і хачу з вамі падзяліцца. Краіна гэта называецца Францыяй.

На беразе Міжземнага мора, недалёка ад г. Кан (тут знаходзяцца курорты), раскінуўся цэлы гарадок з белых палатак. У гэтым палатачным гарадку сабрана „на манэўры“ некалькі соцень расійскіх дзяцей: хлопчыкаў і дзяўчынак добра адзетых. Вопратка іх надта падобна да вопраткі амэрыканскіх і ангельскіх бойскаўтаў. Пад наглядам добрых вайсковых настаўнікаў яны займаюцца тут фізкультурай, вайсковаю муштроўкаю, робяць экскурсіі і „паходы“ па акраіне і на недалёкія адтуль Альпійскія горы. Але гэтыя організацыі зусім не падобныя на нашы піонэрскія організацыі. Гэта ня тыя, хто рыхтуецца змагацца за волю працоўных. Не для гэтага яны сабраліся ў гэты палатачны гарадок. Яны сабраны тут буржуазіяй для таго, каб выхаваць з іх абаронцаў буржуазіі ад надыходзячай пролетарскай рэволюцыі. Тут на сродкі буржуяў у дзіцячыя галовы, сярод якіх ёсьць і дзеці рабочых і сялян, выпадкова закінутых сюды імпэрыялістычнай вайной і хваляй рэволюцыйнай буры, тут у гэтыя галовы ўціскаюцца хлусьлівыя ўяўленьні аб Саюзе працоўных, сеецца глыбокая нацыянальная ўражда, прывіваецца зьнявага да рэволюцыі—яе дасягненьняў і заваёваў. Усё гэта робіцца ў інтарэсах буржуазіі і для таго, каб зламаць надыходзячую хвалю рэволюцыйнай буры. Але нішто не аслабіць цьвёрдага рашэньня працоўных дабіцца свайго поўнага і канчатковага вызваленьня з-пад улады буржуазіі.




Картка, якая распаўсюджвалася француськімі піонэрамі. Справа піонэр надзяе галстук непіонэру з словамі: „Дзіця працоўных, ідзі з сваёй клясай!“

* * *

Ня гледзячы ні на якія ўціскі і паліцэйскія забароны, пад кіраўніцтвам францускай камуністычнай партыі, па ўсёй буржуазнай рэспубліцы растуць і ўзмацняюцца чырвоныя атрады францускіх піонэраў. І вось мне зноў прышлося пабываць у вялікім Марсэльскім порце сярод юных піонэраў. Я прысутнічаў на вечары, прысьвечаным офіцыйнаму зацьверджаньню (ня гледзячы на зло буржуазіі) першага Марсэльскага атраду юных піонэраў. Шумная заля запоўнена рабочымі і іх дзяцьмі. Раздаліся ўрачыстыя гукі Інтэрнацыяналу. І вось на сцэне 80-гадовы камунар дрыжачаю рукою перадае піонэру чырвоны сьцяг.

— Клянецеся бараніць гэты сьцяг,— кажа ён старым, але яшчэ цьвёрдым голасам.

— Клянемся!—з упэўненасьцю вылятае адказ з сотні дзіцячых грудзей.

— Няхай жывуць Саветы!

— Няхай жыве рэволюцыя!

А там, у залі, маладыя дзяўчаты прадавалі ўсім жадаючым піонэрскія адкрыткі, зьбіраючы такім чынам у „жалезны фонд“ комуністычнай газэты „Юманітэ“ дабрахвотныя ахвяраваньні.

— Калі вернецеся ў Савецкі Саюз,— кажа мне піонэр, моцна сьціскаючы маю руку,—калі вернецеся ў краіну Саветаў, то перадайце расійскім піонэрам нашае братэрскае прывітаньне. І яшчэ скажэце ім, што мы ўпарта працуем, памагаючы дарослым у іх цяжкай барацьбе з буржуазіяй.

Зьвярнуўшыся пасьля доўгага падарожжа у Савецкі Саюз я з задавальненьнем сьпяшаюся выканаць тваю просьбу, мой далёкі таварыш.

**Н. Пеліна—Бадгаецкі.**



# ПІОНЭРЫ ПАЎДНЁВАЙ АМЭРЫКІ

У Паўднёвай Амэрыцы разьмешчана шмат дзяржаў,—вялікіх і маленькіх, з дзіўнымі для нас назвамі: Аргэнтына, Бразілія, Урагвай, Чылі, Пэру і інш. (знайдзеце іх на карце).

У 3-х з гэтых дзяржаў—Аргэнтыне, Урагваі і Чылі—ёсьць нашыя сябры і таварышы—юныя піонэры.

Перакінемся ў Аргэнтыну. Там піонэрская організацыя існуе вельмі даўно, цэлых 5 год (з 1922 г.). Мы павінны быць ім вельмі ўдзячны за вялікую дапамогу, якую яны прынесьлі галадаючым дзецям Паваложжа.

Цяпер у Аргэнтыне 700 піонэраў, 15 груп. Здаецца, вельмі мала. Але вы паглядзеце, як яны працуюць.

Сваю газэту „Юны Таварыш“ яны выпускаюць у 5.000 экзэмпляраў. Як толькі вышаў нумар, піонэры зараз-жа бяруць па некалькі экз. і адпраўляюцца па фабрыках і заводах і становяцца каля варот. Калі рабочыя канчаюць працу і выходзяць з варот, піонэры прапануюць ім газэту.

У чэрвені 1926 г. ў Паўднёвай Амэрыцы праводзіўся Міжнародны Дзіцячы Тыдзень. Піонэры і комсамольцы наладзілі дзесяткі сходаў ня толькі ў гарадох, але і вёсках. І вось тут піонэры паказалі сябе малайцамі. У Буэйнос-Айрэсе яны наладзілі дзіцячую дэмонстрацыю, у якой удзельнічалі 3000 дзяцей.

Такое надзвычайна добрае правядзеньне дзіцячага тыдню вельмі ўстрывожыла буржуазію. Капіталістычныя газэты паднялі страшэнны шум супроць піонэраў. Многіх вучняў за тое, што яны распаўсюджвалі часопіс, выключылі з школ.

Вялікі ўдзел піонэры прымаюць у барацьбе дарослых рабочых. Вась адзін прыклад:

Уласьнікі аднаго вялікага выдавецтва надумаліся паменшыць пэнсію рабочым. Рабочыя не згадзіліся і пачалі барацьбу. Піонэры рашылі дапамагчы ў барацьбе сваіх бацькоў. Яны ўтварылі асобны камітэт, які павёў кампанію супроць дзіцячых часопісяй, якія выдавала гэтае выдавецтва. У школах, на вуліцах, у дварох, у „Юным Таварышы“—піонэры агітавалі сярод чытачоў і падпісчыкаў гэтых часопісяй. Пасьля 3-х месяцаў такой энэргічнай працы, тыраж гэтых буржуазных часопісяй зьменшыўся ў 2 разы.




# НАШАЕ ЖЫЦЬЦЁ

## КАРЫСНА І ЦІКАВА ПРАВЯЛІ СЬВЯТА

*(м. Старобін, Случчына)*

Дзіцячы Тыдзень пачаўся агульным вечарам піонэраў разам з бацькамі, на якім быў даклад аб Дзіцячым Тыдню і аб 5-годзьдзі існаваньня піонэрорганізацыі на Беларусі. Пасьля—п'еса ў двух актах „Сын камунара“. Больш за 700 чалавек пратышчылася ў сьцены будыніны тэатру, каб паглядзець. Усе засталіся здаволены гэтым вечарам.

Было каля 4 гадзін раніцы, калі на базары раздаўся сыгнал і некалькі залпаў з стрэльбаў. Гэта быў знак на збор. Яшчэ перад сьвятам нашыя павадыры надумалі організаваць гульню. Дзеля гэтага ў школе і на базары былі вывешаны абвесткі ў форме загадаў. Дзеля цікавасьці можна прывесьці і зьмест гэтых загадаў: *21-га праводзім гульню. Усе радіўшыяся ў 1910-11-12-13-14-15 г.г., усе, хто можа насіць аружжа, дзеці школ і вуліц, прызываюцца ў армію тав. БУДЗЁННАГА і банду бацькі МАХНО* і г. д.

Цэлыя два дні можна было бачыць каля гэтай афішы цэлыя кучы людзей, якія са зьдзіўленьнем пыталі адзін у аднаго, што гэта будзе? Усяго на гульню было зарэгістравана каля 300 дзяцей. Яшчэ перад сьвятам усе зарэгістраваныя былі падзелены на два лагеры—на чырвоных, інакш кажучы, армію Будзённага, і белых—банду Махно. Гэтыя лагеры паасобку ў сваю чаргу былі разьбіты на штабы, рэзэрвы, а ў чырвоных яшчэ і друкарня. Усё было загадзя абгаворана і назначаны месцы штабаў і друкарні, што зьяўлялася сакрэтам для другой партыі. Кіраўнікамі гэтых лагераў былі назначаны павадыры атрадаў.

Такім чынам, як толькі раздаўся сыгнал і першыя два залпы, адразу-ж уся плошча рынку была поўна дзяцьмі і дарослымі, якія ўвесь час стаялі ў баку і з інтарэсам наглядалі за гульнёй дзяцей. Адразу белыя і чырвоныя адлучыліся адны ад другіх і тайком накіраваліся ў штабы. Друкарня чырвоных яшчэ да пачатку гульні пачала сваю працу. Было „надрукавана“ (рукапісам) шмат адозваў, плякатаў і лёзунгаў, якія з незамянімай спрытнасьцю былі разьвешаны па мястэчку і нават у штабе белых. Пасьля белыя захапілі друкарню і заперлі яе ў турму, якая знаходзілася ў мураванай лаўцы. Ва ўсіх белых былі белыя банцікі. А камсклад белых быў адзеты ў вайсковую польскую адзежу; на іх былі польскія кантовыя шапкі „пазнанкі“ і пагоны. Таксама ў белых было некалькі баявых расійскіх стрэльбаў і іншага роду аружжа. Камандзіры-ж мелі пры сабе кожны па рэвальвэру і па шашцы.

Горда і бліскуча ўвайшла банда бацькі Махно ў мястэчка і пачала арыштоўваць усіх пападаўшых чырвоных і пачалі раскідаць і руйнаваць зложаныя чырвонымі барыкады. Гаспадарылі яны пакуль

што, бо ня бачылі, што за іх сьпіною ідзе ўсё войска чырвоных байцоў. Чырвоныя, падышоўшы бліжэй, адразу пайшлі ў наступленьне. Ішлі дзьве раці адна за другою. Трэба сказаць, што ў чырвоных былі чырвоныя банцікі, а камсклад таксама быў добра ўзброен. Сам Будзённы і Махно ехалі на конях, кожны пры сваім атрадзе. Пачалося наступленьне чырвоных і супраціўленьне белых. Увесь час чутны былі выстралы з рэвольвэраў і стрэльбаў. Увесь рынак аглушыўся крыкам „ура". Перамаглі чырвоныя. Узяўшы ў палон, яны разброілі ўсіх белых і павялі іх пад канвоем. Пасьля вызвалілі з турмы сваю друкарню і ўсёй агульнай дэмонстрацыяй пайшлі к школе, адкуль разыйшліся па хатах. Гульня прайшла, як ня трэба лепш, усё было організавана. Піонэры і наогул усе дзеці трымалі сябе, як належыць. Уся публіка выказала сваю пахвалу піонэрам.

У 11 гадзін на 4-х лодках, якія зьмяшчаюць кожная па 13 чалавек, былі організаваны масавыя катаньні на рацэ Случ да 5 гадзін веч. Вось як мы пачалі праводзіць наша сьвята.

Першы дзень сьвята прайшоў з посьпехам. У гэты дзень мы паказалі перад усімі сялянамі мястэчка нашу моц і організаванасьць. **Рыклін.**

# МЫ ЯШЧЭ НЯ ЎМЕЕМ ПРАЦАВАЦЬ

## Ці добра гэта?

*(Крычаў, Бацьвінаўскі атрад Ю. П., Калінінская акруга)*

Наш атрад раней працаваў вельмі добра, зараз-жа пачынае распадацца, таму што павадыр ніколі не зьяўляецца ні на сходы, ні на занятки атраду.

Піонэры зьбяруцца адны, пастаяць ды пойдуць дамоў, а праз гэта ў іх адпадае ахвота ісьці ў атрад. Трэба ячэйцы і павадыру падумаць, ці добра гэта?

**Б. Пятроў.**

## Ня ладзяць

У м. Круглым ёсьць 3 піонэрскія атрады: 2 пры сельсавеце і 1 пры профсаюзе. Піонэры профсаюзнага атраду ня ладзяць з піонэрамі сельсавецкіх атрадаў і варожа адносяцца да іх, а апошнія наадварот. Калі ў школе адбываюцца выбары ў савет форпосту, дык піонэры профсаюзнага атраду галасуюць за свае кандыдатуры, а піонэры сельсавецкіх атрадаў за свае. Няма згоды.

Піонэр **Цяцерынец.**



## Трэба экономіць час

*(Бабруйск, Крупскі раён, Піонэрскі атрад)*

Савет атраду пастанавіў пачаць агульна-атрадны збор піонэраў а 10-й гадзіне раніцою. Чуць сабраліся піонэры толькі к 12 гадзінам.

Калі іх пытаюць, чаму вы спазьніліся, дык яны адказваюць: *„калі пастанавілі ў 10 гадзін, дык заўсёды па звычаю пачнецца ў 12 гадзін“.*

Савет атраду павінен павесьці барацьбу супроць такіх піонэраў, бо для піонэраў павінна быць дорага кожная хвіліна.

Піонэр **Волк Эля.**

## Актыў на сакрэтным пасяджэньні

*(Нова-Барысаў).*

Аднаго разу наш атрад рашыў сабраць актыў, каб пагутарыць, як працаваць далей.

Прышоў дзень пасяджэньня актыву. Павадыр адчыняе пасяджэньне і гаворыць:

— Хто не актыў—выходзьце, бо тут будуць абгаварвацца сакрэтныя пытаньні. Некаторыя піонэры засталіся. Ішло абгаварэньне аб дрэннай працы атраду і што рабіць надалей, каб яе палепшыць. Вось якія сакрэтныя пытаньні!

Нам здаецца, што ніякіх зачыненых сходаў не павінна быць. І зачым падзяляць піонэраў на актыў і неактыў?—зусім ня трэба.

Такая праца актыву і асобных актывістаў дрэнна адбіваецца на працы атрадаў.

Піонэры **Куська і Нёма**.

## Наша „нявыхаванасьць“

*(Карма, Магілеўскай акругі)*

Нашы некаторыя піонэры і школьнікі да агульнай маемасьці школы адносяцца кепска: ломяць лаўкі, кідаюць каменьні, ломяць гальлё з дрэў. Апрача гэтага, ходзяць з нячыстымі рукамі, неабстрыжаны. У пакоі ня зробяць плявацельніцы, а плююць на падлогу. Гэтым яны даюць дрэнны прыклад і для ўсіх неорганізаваных.

Трэба, каб піонэр быў піонэрам, а не хуліганам. Я лічу, што гэта пытаньне трэба вынесьці на абгаварэньне ў кожным атрадзе Ю. П.

Піонэр **Караткевіч.**

## На аздараўленьне забыліся

*(Чырвоная Слабада, Слуцкай акр.).*

Прайшла зіма. Канчаецца вучоба. Піонэрам трэба за лета паправся і адпачыць. У гэтым павінна дапамагчы ім фізкультура на чыстым паветры і г. д.

У нас робіцца наадварот. Узімку дык наш атрад хоць трохі займаўся фізкультураю: праводзілася яна на зьвеньневых занятках і зборах. Цяпер-жа, калі настала цёплая пагода, мы ніяк не займаемся фізкультураю.

Павадыру атраду трэба на гэта зьвярнуць увагу.

**Свой.**

## Патрэбен мэдыцынскі агляд

*(м. Заслаўе, Менскай акр.)*

Ужо больш за 7 месяцаў, як у нашай школе ідуць заняткі, а мэдыцынскага агляду вучняў ня было. Мне здаецца, што вінавата ў гэтым санкамісія, а гэтак сама і школьны савет.

Агляд-жа трэба зрабіць хоць у канцы году.

Дзяткор **А. Шэпсанвол.**







## За піонэрскую вячорку

*(м. Леніна, Слуцкай акругі)*

Старэйшыя піонэры нашага атраду вельмі недысцыплінаваны. „Надаела нам, трэба пагуляць“—кажуць гэтыя піонэры. І піонэры ідуць пагуляць ня ў клюб, а куды-небудзь на вечарынкі.

— Цяпер у нас вечарынкі на „яць“—кажуць піонэры.—Мы арганізавалі музыку. У некаторых піонэраў ёсьць свае скрыпкі і яны там іграюць.

Гледзячы на старэйшых, і малодшыя піонэры наладжваюць свае гулянкі. Яны там вучацца скакаць. Савет павадыроў некаторых з іх выключыў з атраду, але нічога не памагае; піонэры ўсё-ж такі гуляюць.

Памойму, выключаць піонэраў за гэта будзе ня зусім правільным. Справа вось у чым. Наш атрад ні разу не падумаў, каб у сябе зрабіць піонэрскую вячорку, а гэта можна-б было зрабіць. Некаторыя піонэры могуць іграць на скрыпцы, на гармоніку, а другія могуць пад гармонік пасьпяваць. Можна наладзіць піонэрскія скокі, дэклямацыі, можна і гутарку якуюнебудзь правесьці. Вось такая вячорка і будзе цікавай і карыснай. Тады піонэры ня пойдуць на „вечарынкі“, дзе скачуць і п‘юць. Піонэрскія вячоркі зацікавяць усіх піонэраў, а таксама і неарганізаваных.

**Е. Мацкевіч.**

## Дайце шэфа!

*(Вёска Жораўка, Дукорскага с. с., Сьмілавіцкага р.)*

Цяжка працаваць нашаму атраду. Няма сродкаў, мала літаратуры. Ніхто не дапамагае нам. Піонэры гораду, адгукнецеся на наш кліч! Дайце нам шэфа!

**Якаў Акуліч.**

**Ад рэдакцыі:**

Рэдакцыя лічыць, што ў Акуліча зусім няправільны погляд. Нельга так ставіць пытаньне, калі „цяжка працаваць, то дайце шэфа і дапамажэце“. Дапамогі ня трэба шукаць, а сваімі сіламі (атрадам) добра наладзіць работу свайго атраду. Няхай піонэры самі бяз чужой дапамогі (грошай, літаратуры) падумаюць і арганізуюць сваю работу, каб яна была цікавай для піонэраў. Такі павінен быць погляд.

Калі піонэры ўсё зробяць самі, а ня хто-небудзь за іх, то гэта будзе ў 100 раз карысьней. Піонэр павінен сам умець выходзіць з цяжкага становішча, умець працаваць, організоўваць сваю работу, бо ў іншым выпадку з піонэра выхаваецца чалавек, які будзе няздольным працаваць самастойна, бяз „шэфаў“. У чарговым нумары будзе зьмешчаны артыкул, якім павінна быць шэфства гарадзкіх атрадаў над вясковымі.

# Як зрабіць модэль турбіны

На гідроэлектрычных станцыях сіла вады, якая падае з вышыні, круціць машыны, якія выпрацоўваюць электрычны ток. Для таго, каб прыводзіць электрычную машыну ў рух, вада падае ў спэ-




Рысунак 1-шы.

цыяльны рухавік, у так званую турбіну. Гэты рухавік уяўляе з сябе калясо з асаблівымі лапаткамі.

На станцыях, якія прыводзяцца ў рух параю, пастаўлены большай часткай гэтакія рухавікі—паравыя турбіны, калёсы якіх рухаюцца параю, якая пападае ў рухавік з спэцыяльных паравых катлоў.

Для таго, каб зразумець, якім чынам вада ці пара рухаюць турбіну, мы з вамі, чытачы, паспрабуем самі зрабіць такую турбіну, але толькі яна будзе прыводзіцца ў рух у нас не вадой і ня параю, а цёплым паветрам, нагрэтым ад запалкі, сьвечкі, ад батарэі цантральнага апалу і інш. Матар'ял для нашай турбіны мы скарыстаем самы просты—кавалак густой паперы, кавалачак картону і іголку.

Турбіна, якую мы зьбіраемся зрабіць, складаецца з 2-х картонных калёс з лапатачкамі, пагнутымі накшталт жалабкоў (бач. рысунак 2). На рыс. 1 паказана гатовая турбіна, абадок яе дадзен сьпераду разарваным, каб было відно разьмяшчэньне калёс. Верхняе калясо—рухомае, яно ўзьдзета на восць, звычайную вялікую іголку; гэта калясо рухаецца. Ніжняе калясо—нярухомае, умацавана канцамі лапатак да картоннага абадку турбіны. Цяпер прыступім да пабудовы турбіны.

Выражам з густога картону, напрыклад, вокладкі блёк-ноту, два кружочкі, адзначаныя раней цыркулем. Расчынім цыркуль, г. зн. зробім адлегласьць паміж яго ножкамі (радыус) 25 мілімэтраў (рысунак 2.). Адзначым сярэдзіну кружочка пунктам і адрысуем цыркулем другую меншую акружыну з таго-ж самага цэнтру, прычым возьмем радыус у 21 м. м. (рыс. 2).

Такіх кружочкаў нам трэба будзе два: для рухомага і нярухомага каляса турбіны.

Затым цыркулем па ўсёй меншай акружыне на кожным кружочку адзначым пункты, праз кожныя 4 м. м., і такім чынам мы падзелім усю гэтую акружыну на азначаны лік роўных частак (апошняя частка можа атрымацца некалькі больш ці менш 4 м. м., але гэта ня мае вялікага значэньня). Уявім, што ў нас атрымалася 35 частак, тады нам патрэбна будзе 35 лапатачак, якія мы зьмесьцім у надрэзы на картонных кружкох. На картонных кружкох з краю зробім 35 надрэзаў брытвай ці вострым нажом, але ня ножніцамі, з тае прычыны, што ножнамі ня зробіш вузкага добрага надрэзу.

Потым з тоўстай пруткай паперы выражам доўгую палоску ў 30 м. м. шырынёй, і з гэтай самай доўгай палоскі




Рысунак 2-гі.

нарэжам 35 лапатачак для рухавога каляса, разьмер кожнай лапатачкі 30×15 м. м. З другой палоскі паперы шырынёй у 34 м. м. нарэжам гэтак сама 35 лапатачак для нярухомага каляса. Форма гэтых лапатачак іншая,—яна з аднаго кан-




Рысунак 3-ці.

ца некалькі вузей. Разьмеры лапатачкі і форму яе глядзі на рысунку 2.

Калі лапатачкі нарэзаны, ім патрэбна надаць форму жалабкоў (выгнуць). Выгнуць можна пры дапамозе круглага карандаша, вакол якога будзем накручваць лапатачкі.

Пасьля гэтага возьмемся складваць калёсы нашае турбіны. На рысунку 3-м паказана, як разьмяшчаюцца лапатачкі ў надрэзах картонных кружкоў. Усе лапатачкі сваім увагнутым бокам павінны быць абернуты ў адзін бок. Напрамак лапатачак нярухомага каляса павінен быць абавязкова адваротным напрамку лапатачак рухомага каляса, як гэта відна з рысунку 1, інакш турбіна працаваць ня будзе. Патрэбна заўважыць, што лапатачкі таго каляса, якое круціцца, усаджваюцца ў надрэзы пасярэдзіне жалабка, а лапатачкі нярухомага каляса ўсаджваюцца ў надрэзы сваёй вузейшай часткай (канцом), выступаючы пад картонным кружком (выраз робіцца ў ражку лапатачкі—бач рысунак 3). Каб лапатачкі мацней трымаліся, іх прыклейваюць клеем,—абмазваецца зьлёгку гумі-арабікам край кружка са ўстаўленымі і выраўненымі лапатачкамі.

У асяродку (цэнтры) рухомага каляса робіцца вось, якую можна зрабіць з іголкі-шаршаткі. Каб іголка не варочалася ў картоне, яе замацоўваюць капелькай клею.

Каб скласьці нашу турбіну прыгатуем картонны ці папяровы абадок, шырынёй 35-40 м. м. Ён павінен туга абхватваць нярухомае калясо, якое прымацоўваецца да абадка, выступаючымі кончыкамі лапатачак пры дапамозе клею. У сярэдзіне нярухомага каляса ў картонным кружочку з споднягa боку ўмацоўваецца маленькі кружочак бляхі з лапкамі для таго, каб можна было загібаць, як гэта ясна на рысунку 3. Бляха служыць апорай для гострага канца іголкі, каб калясу было лягчэй круціцца. Тая частка восі, якая знаходзіцца на версе, умацоўваецца палоскай паперы за бакі абадка (рыс. 1, 4), і турбіна наша гатова.

Адлегласьць між верхнім і ніжнім калясом робіцца такой, каб рухомае калясо не чаплялася за напраўляючае (нярухомае) ніжняе.

Ад таго, як акуратна і дакладна мы зложым турбіну, залежыць посьпех нашай работы.

Калі ўсё выканана дакладна і ўважліва,—наша праца будзе мець узнагароду: пабудаванай модэльлю турбінкі мы зможам пахваліцца перад меншымі штукарамі-дзецьмі, з тае прычыны, што яна (наша турбіна) будзе працаваць пры самым маленькім руху нагрэтага паветра. Досыць паставіць яе над якой-небудзь нагрэтай рэччу, цёплым жалязкам, электрычнай настольнай лямпай, і яна пачне круціцца — нагрэтае паветра, прайшоўшы нярухомае калясо, атрымлівае напрамак на лапатачкі рухомага каляса і, удараючыся аб іх, прыводзіць калясо ў рух. На рысунку 4 дадзена турбінка, якая працуе ад сьвечкі. На гэтым рысунку наша турбінка паказана зьмешчанай яшчэ ў другую больш высокую картонную трубку. Гэта зроблена для таго, каб ў ёй утваралася цяга паветра, як у коміне.



Рысунак 4-ы.

Калі працуе настаяшчая вадзяная турбіна, то зразумела, што вада пападае ў турбіну зьверху, для гэтага напраўляючае (нярухомае) калясо зьмяшчаецца ў версе, а пад ім рухомае; такую модэль атрымалі-б, перавярнуўшы пабудаваную намі турбіну ўверх нагамі; па сутнасьці-ж наша модэль турбіны ад настаяшчай нічым ня розьніцца.

Цяпер мы, пабудаваўшы сваімі рукамі модэль турбіны, уведалі, як яна пабудавана і чаму яна працуе.

Кожны з вас можа стаць галоўным інжынэрам маленькай станцыі, якая працуе нагрэтым паветрам.

Хто з вас будзе яе рабіць, няхай напіша, як яна працуе.

**Н. Браништэйн.**



# Агляд насьценгазэт

*(З лістоў дзяткораў)*

Некалькі слоў аб піонэрскай насьценгазэце наогул. Бязумоўна, піонэрская насьценгазэта павінна адрозьнівацца ад насьценгазэт дарослых як сваім зьместам, так і выглядам.

Аб чым павінна пісацца ў піонэрскай насьценгазэце? Аб жыцьці і рабоце піонэраў і неорганізаваных дзяцей, у першую чаргу, артыкулы, вершы, апавяданьні, допісы, малюнкі, навіны навукі і тэхнікі (матар'ял для гэтага аддзелу можна браць з газэт і часопісяй), куток дзяткора, гумарыстычны аддзел, у часе адпачынку, што чытаць і г. д.

Трэба, каб насьценная піонэрская газэта мела прыгожы выгляд, г. зн.: загаловак павінен быць добра намалёван і ва ўсёй газэце павінна быць шмат малюнкаў, ілюстрацый *).

Добра пастаўленая насьценгазэта зможа аб'яднаць вакол сябе ўсіх дзяцей— піонэраў і непіонэраў, што зьяўляецца мэтай кожнай насьценгазэты.

Як-жа абстаіць справа з насьценгазэтамі ў піонэратрадах і школах? Каб высьветліць гэтае пытаньне, дамо слова дзяткорам. Дзяткор *Янка Акуліч*, з вёскі Насавічы, Мазырскае акругі, піша:

*„Пры нашай школе выпускаецца насьценгазэта, у якой мы пішам пра жыцьцё і работу нашага атраду ЮП і школы. Зьмяшчаем свае вершыкі, стацейкі. Аздабляем газэту прыгожымі малюнкамі. Газэта мае вельмі прыгожы выгляд. Ёю ўсе вельмі цікавяцца і прымаюць у ёй удзел. Газэтай нашай цікавяцца нават дарослыя і даюць свае допісы".*

Бязумоўна, такая газэта адпавядае свайму назначэньню. Як відаць з слоў дзяткора, газэта толькі тады будзе добрай, калі ў ёй будуць усе прымаць удзел. Гэтак-жа стаіць справа ў другой 9-цігодцы пры МББ ж. д., аб чым нам піша дзяткор *Яэп Эсьман*:

*„У нас выпускаецца школьная газэта, у якой высьвятляецца жыцьцё і работа школы і г. д. Усе вучні і настаўнікі прымаюць у ёй удзел... Школьнікі зацікаўлены сваёй газэтай"...*

А вось прыклад другой газэты, аб якой піша дзяткор *С. Пэрсін*:

*„Пры Касьцюковіцкай 7-мігодцы (Калінінщчына) выходзіць насьценная газэта, у якую мала пішуць вучні, а, галоўным чынам, піонэры... У газэту пішуць толькі сябры вучкому".*

Толку з такой газэты ня будзе—газэта такая будзе няжыцьцёвай. Далей паглядзім яшчэ адну насьценгазэту, якую выпускае піонэр-атрад у вёсцы Ляўкі, Аршанскае акругі. Дзяткор *Шклоўскі* паведамляе:

*„Наш атрад за 3 гады свайго існаваньня выпусьціў толькі 5 нумароў насьценнай газэты. У 1926 г. абралі новую рэдкалегію, якая пачала весьці працу па выпуску газэты"...*

Паглядзім-жа, як яны выпускалі сваю газэту. Слухаем дзяткора далей:

*„...Зрабілі пасяджэньне рэдкалегіі і даручылі 2 сябрам рэдкалегіі і пам. павадыра атраду пісаць і выпускаць насьценгазэту, але піонэры з рэдкалегіі*

*) Дакладна аб насьценгазэтах пісалася у № 1-2 і 3-4 „Б. П.".

*ня прышлі, прышлося пісаць аднаму пам. павадыра. Ён выпусьціў адзін насьценгазэту. Газэта была напісана на старой насьценгазэце (на другім баку). Газэта вышла дрэннай,—ніхто яе не хацеў чытаць. Рэдкалегія дастала паперы і перапісала яе, далі шмат малюнкаў. Выгляд газэты зьмяніўся, але не пасьпелі яе пачытать, як нехта ўкраў"...*

Далей дзяткор са сьлязьмі на вачох кажа: „Другой газэты мусіць і ня выпусьцім", бо ніхто ня піша.

У чым тут памылка і як яе зьнішчыць? Такая газэта, якую выпускае адзін чалавек і на старой, бруднай, зьмятай паперы—не газэта, а ануча, якую ніхто чытаць ня будзе.

Выйсьце з такога становішча дае нам дзяткор *Левін Гірш*. Ён піша:

*„...У нашым атрадзе, пры насьценгазэце, арганізаваўся дзяткораўскі гурток. Кіруе гуртком рэдкалегія насьценнай газэты. Галоўная задача, якая стаяла перад гуртком, была—уцягнуць ў гурток усіх адсталых дзяцей, якія хочуць пісаць у газэту і ня ведаюць як.*

Якія-ж з гэтага атрымаліся вынікі? А вынікі атрымаліся наступныя:

*„...Раней у нашай насьценгазэце зьмяшчалася дзіцячых артыкулаў 15-20, а цяпер 25-30, а гэтак сама шмат новых піонэраў навучыліся пісаць у газэту. Газэта палепшылася і ўсе пачалі цікавіцца ёю".*

Разгледзеўшы некалькі такіх допісаў, вывады становяцца яснымі: дзе газэта выпускаецца некалькімі асобамі, ёю ніхто ня цікавіцца, і яна губляе сваю вартасьць, а вартасьць газэты вялікая. Добра паставіць справу насьценнай газэты могуць толькі дзяткораўскія гурткі. Задача дзяткоргурткоў зводзіцца к таму, каб навучыць сваіх сяброў (гэтак сама і іншых) працаваць у насьценнай газэце, як яе паставіць, даць асноўны навык корэспандэнцкай рабоце і агульнае ўяўленьне аб друку, галоўным чынам, піонэрскім. Асяродкам, навакол якога павінна разгортвацца работа дзяткоргуртка, зьяўляецца насьценгазэта.

Разам з гэтым гурток абмяркоўвае пытаньні, якія маюць сувязь з кампаніямі ці бягучымі задачамі і практыкай піонэрработы (работа піонэраў у сям'і, Міжнародны Дзіцячы Тыдзень, вучоба піонэраў у школе і г. д.). На падставе гэтага можна скласьці і плян працы гуртка, а плян працы неабходзен.

Гурток можа і павінен займацца гэтак сама і распаўсюджваньнем піонэрскіх газэт і часопісаў.

Дзейнасьці гуртка трэба надаць цікавы, ажыўлены характар, дабіцца таго, каб уцягнуць у актыўную працу ўсіх сяброў гуртка; ня трэба абмяжоўвацца вузкім колам; работа гуртка павінна быць работай усяго атраду, работай усіх тых, хто цікавіцца гэтай працай і хоча працаваць. **М. Махнач.**






### З вялікай ахвотай...

— Як вам спадабаўся мой верш?— пытаецца настаўнік у сваіх вучняў.

— Нічога сабе. *Бываюць і горшыя* яшчэ...

— Як? Вы мяне абразілі... Вазьмеце свае словы назад!

— З вялікай ахвотай, таварыш настаўнік! *Горшых за гэта ня бывае*,—адказалі вучні, бяручы свае словы назад.

### Не абманеш

Хлопчык убягае ў булачную і з гневам крычыць:

— Што вы мне булку з газай далі!..

— Маўчы, ня крычы. Што-ж табе за 3 кап. ды яшчэ можа з маслам дамо? Не абманеш, галубок, нас!

### Зразумеў

— Які ты непаслушны, Пятрусь! Колькі раз я казала табе: у мяне залікі, хадзі ты цішэй, асьцярожней,—у мяне нэрвы...

— Выбачайце, ягамосьць, калі я вам на нэрвы наступіў.



# ПАДУМАЙ

### Загадкі і задачы

#### Задача № 1

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 5 | | 7 | | 9 | | |
| | | А | | А | | А | | |
| 1 | А | Б | Д | З | І | К | К | 2 |
| | | К | | К | | Л | | |
| 3 | М | П | Р | Р | Р | С | Т | 4 |
| | | Ў | | Х | | Ы | | |
| | | 6 | | 8 | | 10 | | |

Пераставіць літары так, каб можна было прачытаць 5 слоў, якія азначаюць: 1-2—твор К. Маркса, 2-4—горад, 5-6—краіна сьвету, 7-8 і 9-10—мужчынскія імёны.

#### Задача № 10

Лік 666 у момант, ня робячы ніякага арытмэтычнага дзеяньня, павялічыць у $1\frac{1}{2}$ разы.

#### Задача № 3.

Які склад і пад якую літару трэба паставіць, каб атрымаць тое, што ты цяпер бачыш перад сваімі вачыма?

#### Задача № 4

Прачытайце, што тут напісана.

1. $\frac{л}{ога}$ $\frac{ш}{а}$ $\frac{л}{амалася}$.

2. $\frac{м}{ву}$ $\frac{ла}{дзіў}$ $\frac{м}{ёў}$ $\frac{м}{ыў}$.

По просьбе некаторых чытачоў у наступным нумары будзе дадзены адказ на цяжэйшыя задачы, зьмешчаныя за 1927 г.

# Як пры дапамозе гадзіньніка даведацца аб краінах гарызонту.

Компас не заўсёды бывае пад рукамі у кожнага. Хутчэй ужо знойдзецца кішэнны гадзіньнік, пры дапамозе якога можна ў сонечны дзень вызначыць краіны гарызонту.

Для гэтае мэты, трымаючы гадзіньнік у паземным напрамку, трэба павярнуць яго так, каб *гадзінная* стрэлка была накіравана на сонца. Тады, калі нагляданьне робіцца пасьля паўдня, поўдзень будзе знаходзіцца *налева* ад гадзіннай стрэлкі, якраз пасярэдзіне між гэтай стрэлкай і цыфрай XII. Калі-ж вам прыдзецца вызначаць краіны гарызонту да поўдня, дык *поўдзень* будзе знаходзіцца ізноў між гадзіннай стрэлкай і цыфрай 12, але толькі *ўправа* ад стрэлкі. Вызначыўшы *поўдзень*, іншыя краіны ня цяжка знайсьці. Пры гэтых вызначэньнях хвілінная стрэлка ня мае ніякае вагі.

Возьмем прыклад.

Уявім, што вы робіце нагляданьні ў 3 г. па паўдні. У гэты час сонца знаходзіцца прыблізна між поўднем і захадам. Гадзінную стрэлку або (што ў даным выпадку адно і тое-ж) цыфру III накіроўваем на сонца. Тады поўдзень будзе знаходзіцца пасярэдзіне паміж цыфрамі I і II.

Праверце гэта на вопыце.

---

## Хто разьвязаў задачы.

*Бляхман З.* разьвязаў задачу № 5, зьмешчаную ў № 5. Адказ: апошні кавалак ён адрэжа на 9-ы дзень. Ён-жа разьвязаў і задачку № 3 з гэтага-ж нумару. Адказ: крамар страціў усяго 30 руб.

*Самцевіч Р.* разьвязаў задачку № 3 з часопісі № 1-2. Адказ: у зьвяне было 8 чал., яны злажыліся па 5 кап.

*Шкадаревіч П.* разьвязаў задачу літар № 2 з часопісі № 3-4 (Б. Р. С. Г. і Мятла) і шараду з гэтага-ж нумару (Раса, Каса).

---

вылучаецца залозкамі; яна захоўвае скуру ад апёкаў, а пагэтаму покуль выявіцца гэты загар, трэба паступова павялічваць час загараньня, пачынаючы з 5—10 хвілін. Толькі пасьля выяўленьня загару магчыма быць на сонцы голаму ад 2-3 гадзін. У час загараньня трэба падстаўляць сонечным праменьням то адзін, то другі бок цела, каб загар быў раўнамерны; галаву пры гэтым трэба закрываць ад сонца, каб ня было прыліву крыві к галаве. Калі-ж, ня гледзячы на ўсю асьцярожнасьць, атрымаецца апёк скуры, трэба гэта месца змазаць вазэлінам.

Купацца лепш за ўсе з раніцы, у поўдзень ня трэба, бо ў гэты час сонца вельмі прыпякае і можа ад прыліву крыві к галаве адбыцца „сонечны ўдар“. Пасьля паўдня лепш за ўсе купацца ў 4 гадзіны дню, калі вада і паветра награваюцца прыблізна аднальковa. У час купаньня ня трэба доўга сядзець у вадзе, і як толькі стане адчувацца холад, выходзіць з вады. Таксама ня трэба потнаму адразу кідацца ў ваду, а наперад няхай вецер крыху абвее цела. Ня трэба купацца адразу пасьля яды.

Кожны піонэр павінен ведаць гэтыя правілы і выконваць іх, але акрамя таго, калі ў піонэра маецца якая-небудзь хвароба сэрца, альбо лёгкіх, альбо агульная слабасьць арганізму—трэба зьвяртацца кожны раз да доктара, які растлумачыць, як трэба карыстацца сонцам, вадою, паветрам таму альбо іншаму піонэру.

С. Смаршчкоў.



# ШТО ЧЫТАЦЬ.




*Замойскі.*—**Ліст Ільлічу**. (Пераклад з расійскай мовы), Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Цана 20 кап.

У гэтым невялікім па разьмеры апавяданьні расказваецца адзін вельмі цікавы момант гістарычнага характару.

Сялянскі хлапец Прошка, бачачы ўсё гора і дрэннае жыцьцё свайго бацькі, становіцца на шлях змаганьня за лепшае жыцьцё.

Пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі ён ідзе заместа бацькі на сходы, у сельсавет—усюды, дзе толькі гаворыцца аб тым, як наладзіць лепшае жыцьцё. Бацька хворы: ён ня можа карміць сваіх дзяцей.

Атрыманьне зямлі таксама ня прынесла для гаспадаркі карысьці: яе ня было каму і ня было чым урабляць.

Прошка ўсё гэта бачыць, усё перажывае... Урэшце ён рашаецца на такі шаг: паслаць ліст Ільлічу, расказаць яму аб сваім горкім жыцьці, а ну-ж ён чым-небудзь паможа ім.

Ліст быў напісаны і пад строгім сакрэтам пасланы, каб ніхто з хатніх ня ведаў аб гэтым. Прошка пра Леніна ведаў з апавяданьняў старшыні сельсавету. Ён таксама ведаў, дабрату дзядзькі Леніна.

І вось—якая радасьць!—Ільліч уласнаручна напісаў ліст у воласьць, каб апошняя зьвярнула ўвагу на сям'ю Прошкі, а яго самога аддаць вучыцца на кошт дзяржавы.

Такі ў кароткіх словах зьмест гэтага цікавага апавяданьня.

Чытаеш яго з захапленьнем, ад пачатку да канца. Мова, характар пісьма ў аўтара вельмі лёгкія для чытаньня, хоць-бы і малапісьменнаму.

Даволі добра напісана таксама з боку мастацкасьці. Некаторыя сцэнкі з сялянскага быту выйшлі ў аўтара непараўнальна сьвежымі, жывымі і захапляючымі.

Кніжка мае шмат досыць цікавых малюнкаў мастака *Змудзінскага*.

Набыць яе для атрадаў і школ, а таксама і кожнаму, хто мае магчымасьць, вельмі патрэбна.

**Чытач.**



1-ая дзярж. друк. Зак. № 2360.

Галоўлітбел № 25617.